Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 2—(42). Вільня, 7 студня 1928 году. Год II.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За міліметравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Лёс грамадаўцаў у БССР.

Казённая савецкая прэса ўвесь час стараецца пераканаць беларускіх сялян, што ў Польшчы ў адносінах да „Грамады" стасуецца страшны тэрор, што арыштованы тысячы грамадаўцаў і г. д.

У хуткім часе мае адбыцца ў Вільні працэс „Грамады", які выясьніць, ці меў слушнасьць урад пазбаўляць вольнасьці некаторых беларусаў, ці ня меў. Гэтае справы мы, пакуль што, закранаць ня будзем.

Сягоньня нам хочацца адчыніць толькі адну цёмную старонку ў гісторыі Грамады, а іменна застанавіцца на лёсе тых грамадаўскіх тысячаў, аб якіх шмат пісалася — хочацца паказаць нашаму народу, як спаткалі грамадаўцаў у гэтак званай Савецкай Беларусі бальшавіцкія ўлады.

Ведама, што ў Грамаду ішлі масы, ішло сялянства, моладзь — ішлі і верылі, што ў разе якіх-небудзь прасьледаваньняў з боку польскае ўлады іх прымецъ з радасьцю Савецкая Беларусь, дзе для іх ужо даўно прыгатавана пасада, праца, адным словам, грамадаўцы верылі, што калі ў Саветах іх і не чакае рай, то ў кожным разе чакаець спатканьне з чырвонымі сьцягамі, спатканьне якое, лёгічна думаючы, і павінна было чакаць грамадаўцаў, якія вялі працу на карысьць бальшавікоў і савецкае ўлады.

Якое-ж горкае расчараваньне чакала грамадаўцаў на тым баку граніцы. Уцякаючы ад прасьледаваньня польскае паліцыі, сотні актыўных грамадаўцаў, прэзэсаў гурткоў, сэкрэтароў районных і павятовых камітэтаў апынулася за граніцаю і заместа „чырвонага сьцягу" і музыкі, іх там чакала агентура Г. П. У., якая ўсіх гэтых палітычных эмігрантаў арыштоўвала і садзіла ў савецкія турмы.

У сягоньняшнім нумары нашае газэты мы друкуем першы артыкул у справе лёсу грамадаўцаў, уцёкшых у БССР. Гэтым мы не абмяжуемся. Наша рэдакцыя маець **больш забойчыя матар'ялы** і факты аб тых зьдзеках і нечалавечых муках, якія перажылі сотні грамадаўцаў у Полацку, у Менску, у Воршы, Койданаве і іншых савецкіх турмах. На падставе гэтых матар'ялаў, якія пададзены нам жывымі сьведкамі гэтых гвалтаў і зьдзекаў, самімі-ж грамадаўцамі можна сьцьвярдзіць, што ў гэтак званай БССР, волі ня ўбачыў ніхто з тых, хто ратаваўся ад польскае паліцыі.

У Менску, Полацку, Воршы і іншых месцах сядзела і сядзіць да гэтага часу **некалькі сотняў** грамадаўцаў. Іх трактуюць бальшавікі, як **звычайных крымінальных праступнікаў**, бо ў камэрах грамадаўцаў у савецкіх турмах сядзяць зладзеі, бандыты, хуліганы і розныя савецкія праступнікі, ад якіх грамадаўцы не ізаляваны.

Як крымінальных злачынцаў, грамадаўцаў высылаюць на „принудительныя работы". Значная група грамадаўцаў, каля 50 ч. напрыклад, будавала новую савецкую турму ў Менску, а дазорцы сьмяяліся над імі, ка-

жучы: „вы-ж „рэвалюцыянэры“ — прыехалі ў рэспубліку працы, дык і павінны працаваць“. Але гэтага мала. Значная група грамадаўцаў, каля 10 чалавек, адаслана бяз суда і сьледзтза ў Салоўкі, частка ў Сыбір. Мала таго, прыехаўшых з Польшчы грамадаўцаў, усіх, хто быў больш-менш добра ўбраны, абабралі ў турме, зьнялі з іх боты, порце і іншую вопратку, а далі замест гэтага анучы. Заедзеныя вошамі, голыя, босыя, галодныя грамадаўцы праклінаюць свой лёс, праклінаюць усіх тых, хто іх справакаваў, хто іх ашукаў і кінуў у прорву нявшчасьцяў і гора. Шмат хто з грамадаўцаў, ня вынесшы ўсяго гэтага зьдзеку, захварэў, а некаторыя паўміралі.

Адчыняючы гэтую цёмную старонку Грамады, мы пытаемся: хто вінават ўва ўсім гэтым?! Хто вінават, што беларускіх сялян і беларускую моладзь справакавалі і ашукалі?

Няхай газэта „Права Працы“ і іншыя ёй падобныя газэты, якія за юдашавыя грошы ўвасхваляюць „савецкі рай“, адкажуць нам і ўсяму беларускаму народу, чаму ў Савецкай Беларусі ў вастрогах знаходзіцца больш беларусаў - грамадаўцаў, чымся ў Польшчы?

## Няхай жыве братэрскі саюз беларускіх, польскіх і літоускіх сялян.

## Ад Прэзыдыуму Выканаучага Камітэту Бел. Радыкальнай Народ. Партыі.

1) Апошнімі часамі, у сувязі з пашырэньнем Бел. Рад. Нар. Партыі, вельмі часта сябры партыі прыяжджаюць да Вільні з рознымі пытаньнямі ў справах арганізацыйных. Дзеля таго, што бывалі здарэньні, калі прыехаўшыя зварочваліся да Прэзыдыуму з просьбай аб звароце ім коштаў падарожы, Прэзыдыум Вык. Кам. Б. Р. Н. Партыі заяўляе, што кошты падарожы будзе зьвяртаць толькі тым сябром партыі, якіх сам выкліча. У іншых выпадках кошты падарожы павінны аплачваць мясцовыя арганізацыі. У выпадку патрэбы інфармацыяў просім зьвяртацца да нас пісьмом.

2) Сяброў Б. Р. Н. Партыі ў справах выбараў у Сойм і арганізацыйных просім зьвяртацца да павятовых сэкрэтарыятаў Беларускай Радыкальнай Народнай Партыі альбо да Краёвага Народнага Саюзу „Аб'яднаньне“, працуючых супольна, якія ўжо адчынены ў наступных гарадох: Лідзе, Ашмяне, Глыбокім, Вялейцы, Сьвянцянах, Паставах, Маладэчне, Слоніме і Горадне. Старшыні вясковых хаўрусоў Б. Р. Н. Партыі павінны бязупынна навязаць сувязь з сэкрэтарыятамі свайго павету.

У найбліжэйшым часе будуць адчынены сэкратарыяты Б. Р. Н. П. і ў іншых павятовых гарадох нашых земляў

*Ф. Умястоўскі.*

## Аб рэдагаваньні „Нашае Долі“.

(*Адказ пану Р. Земкевічу*).

Як і трэба было чакаць, кампанію, распачатую проці мае асобы і маючую на мэце даказаць беларускаму грамадзянству, што з беларускім адраджэнскім рухам я ня маю нічога супольнага, — газэта „Права Працы“ вядзе далей, друкуючы ў № 5 за 21 сьнежня 1927 г. пісьмо інжынера Р. Земкевіча, зьмест каторага, друкуем цалком, як вельмі характарны дакумант асьвятляючы мэтоды тэй паскуднай работы, якую вядзе гэная газэціна, чэрпаючы натхненьне для яе з камуністычнага „раю“.

Паважаны Грамадзянін Рэдактар!

Зьвяртаюцца да мяне людзі з просьбаю, каб я выказаўся, хто быў фактычна выдаўцом ды рэдактарам у 1906 годзе „Нашае Долі“.

Вядома мне напэўна, што першым выдаўцом „Нашае Долі“ быў Тукеркес, які мне гэта сам гаварыў, што даў патрэбныя на выдаваньне газэты грошы. Затым пасьля першых трох нумароў выдаўцом стаў Іван Луцкевіч. Што да рэдактарства — дык усе падпісаныя на нумарох газэты рэдактары, былі рэдактарамі толькі „дзеля адседкі“, фактычна-ж газэта мела заўсёды рэдактарства кальлегіяльнае.

У маіх рукапісных „успамінах“, якія вяду ад 1903 г., аб якіх-колечы „заслугах“ пана Ф. Умястоўскага ў кірунку ці выдаваньня ці рэдактарства „Нашае Долі“ — няма нічога. Выдаўцамі ды кіраўнікамі „Нашае Долі“ ў 1906 годзе я вельмі цікавіўся, апавяданьні іх запісваў і ў маіх успамінах, гісторыя паўстаньня і выдаваньня гэтае першае грамадзянскае газэты апісана досіць падрабязна.

Аб рэдактарстве пана Ф. Умястоўскага „Нашае Долі“ ды аб яго выдаваньні гэтае газэты праз 21 год ні ад каго ніколі ня чуў нічога!

Думаю, што аканчальныя, бо дакумэнтальныя доказы маіх слоў могуць даць яшчэ судовыя, паліцэйскія ды жандармскія архіўныя дакумэнты, якія цяпер, як датычна асобы пана Ф. Умястоўскага, так і датычна „Нашае Долі“, студыюе ў Менску грамадзянін А. Шлюбскі, каторы пэўне і апавесьпіць іх у друку, як гэта ўжо зрабіў часткова ў месячніку „Полымя“.

З вялікаю пашанаю да Вас
інж. Р. Земкевіч.

Варшава, 12.XII.1927 г.

Прачытаўшы гэнае пісьмо чалавека, які падпісвае яго тытулам інжынера і каторага рэдакцыя „Права Працы“ апранае ў вопратку „вядомага беларускага археолёга і гісторыяграфа“, у праўдзівасьці доказаў якога ня можна сумлявацца, паўстае паміма волі пытаньне, чаго больш у гэнай пісаніне: наіўнасьці пана Р. Земкевіча, ці хуліганства „Права Працы“, аблічанага на нясьведамасьць беларускае вёскі, якая, паводлуг думкі яе пісакаў, паверыць кожнаму глупству, кожнай іх брахне.

Для таго толькі, каб апаганіць небясьпечнага і нялюбага ім палітычнага працаўніка, газэціна гэтая не затрымліваецца нават перад фальсыфікацыяй фактаў з першых гадоў адраджэнскага беларускага руху, які чэрпаў сваю моц і сілу

## Перасьцярога ўсім б. грамадаўцам *).

Па тых вестках, якія маець рэдакцыя газэты „Беларускі Дзень“, большая часьць б. грамадаўцаў, якія ўцяклі з Польшчы ў гэтак званую Савецкую Беларусь, у Менск, арыштована Савецкімі Уладамі і знаходзіцца ў вастрогах Г. П. У. у над'звычайна цяжкіх абставінах. З аднае Наваградчыны з павету Стаўпецкага і Наваградзкага ў Менскай турме (Допры) сядзіць больш як шэсьцьдзесят грамадаўцаў. Некаторыя з іх сядзяць ужо больш году. Часьць з гэтых арыштованых бальшавікамі грамадаўцаў выселена назад да Польшчы. Робіцца гэта так: Агенты Г. П. У. прыводзяць групамі гэтых няшчасных людзей да граніцы і кажуць:

— Уцякай назад і каб больш да нас не паказваўся. Калі зробіце які-небудзь вялікі праступак,—тады можам прыняць.

Такім чынам, б. актыўныя грамадаўцы робяцца ахвярамі нейкае пляновае правакацыі з боку віленскае падпольнае грамадаўскае цэнтралі, бо іх арышты ў Менску, так і высяленьне грамадаўцаў з Менску ў Польшчу, дзе яны адразу пападаюць у рукі польскае паліцыі, робіцца па ініцыятыве віленскіх грамадаўскіх правадыроў.

Пакуль што, падаём некалькі асобаў—сяброў б. Грамады, якія сталі ахвярамі гэтае правакацыі. Вось яны: *К. Казлоўскі*—актыўны сябра грамады і скарбнік Стаўпецкага павятовага камітэту, паходзіць з вёскі Скамарошкі, Мірскае воласьці. Уцёк у Савецкую Беларусь падчас ліквідацыі Грамады, пакінуўшы дома хворую на сухоты жонку і двое дзяцей. Па пераходзе граніцы быў арыштованы бальшавікамі. Прасядзеў каля пяцёх месяцаў у „Допры“ ў над'звычайна цяжкіх варунках, без усялякае дапамогі і выселены назад у Польшчу разам з іншымі.

У часе яго арышту ў Менску жонка яго памёрла і двое дзяцей засталося бяз ніякае дапамогі. Польскія ўлады арыштавалі Казлоўскага па яго павароце ў Польшчу, думаючы, што ён ізноў прыехаў на „працу“. У даны момант Р. Казлоўскі знаходзіцца ў Наваградзкай турме.

*Палуян*—старшыня Некрашэвіцкага гуртка Грамады, Жухавіцкае воласьці. Уцёк ад прасьледаваньня польскіх уладаў у Менск, дзе быў арыштованы і прасядзеў каля 10 месяцаў у Менскім Допры. Выселены назад да Польшчы, дзе сам зьявіўся да польскіх уладаў, бо ня меў іншага выхаду. Прасядзеў у Стоўпцах у арышце нейкі час і цяпер выпушчаны на волю і жывець у сваёй вёсцы.

*Кісьцень Базыль* — сэкрэтар Вялетаўскага гуртка, Яраміцкае воласьці. Уцёк ад прасьледаваньня польскіх уладаў, удачна перайшоў граніцу і даехаў аж да Ленінграду (Пецербургу), дзе знаходзіўся на савецкай службе яго брат, які за яго паручыўся. Ня гледзячы на гэта, быў арыштаваны, пасаджаны Г. П. У. ў вастрог і этапным парадкам, як звычайны крыміналісты, перавезены ў Менск, дзе, прасядзеўшы некалькі месяцаў у вастрозе, выселены у Польшчу. Знаходзіцца на волі.

*Іолаб Іван* — з мястэчка Яраміч, актыўны сябра гуртка Грамады. Уцёк ад прасьледаваньня ў Расею, дзе быў арыштованы і выселены назад. Знаходзіцца дома, на волі.

*Кот Фама* — з мястэчка Міра, сябра гуртка Грамады. Уцёк падчас ліквідацыі „Грамады“

*) Вышэй пададзены артыкул друкуецца на падставе матар'ялаў, дастаўленых у Выканаўчы Камітэт Беларускай Радыкальнай Народнай Партыі тымі асобамі, якія былі актыўнымі сябрамі Грамады і якія сядзелі ў Менскім Допры. Прозьвішча гэтых асобаў Рэдакцыя „Б. Д.“, пакуль што, трымае ў сакрэце.

---

ў ідэалах, нічога супольнага нямаючых з бальшавізмам.

Каб справа ішла толькі аб маёй асобе, я-бы лічыў лішнім уступаць у палеміку з гэткімі „аўторытэтамі“, як пан Р. Земкевіч і пісакі з „Права Працы“. І калі бяруся за пяро і пішу, то толькі дзеля таго, што гістарычны момэнт адраджэнскага беларускага руху, зьвязаны з „Нашай Доляй“, залішне мала асьветлены, так нават мала, што ў 1919 годзе, калі я аддаваў да друку ў газэту „Беларусь“ свае ўспаміны аб „Нашай Долі“, фактычны рэдактар яе Лёсік сказаў мне: — „Паночку, вы гэнай стацьцёй адчыняеце цэлую новую старонку ў гісторыі беларускага адраджэньня“.

І пакуль пан А. Шлюбскі закончыць свае „студыі“ судовых, паліцэйскіх ды жандарскіх архіўных дакумэнтаў і рэзультаты свае „працы“ дасьць сьвету, асьвятліўшы іх згодна з тэзамі камуністычнай „навукі“, лічу нялішнім сказаць і сваіх некалькі словаў аб гэным гістарычным момэнце, у якім я граў неапошнюю ролю. Але перш вярнуся да ацэнкі гістарычнай вартасьці матар'ялаў пана інжынера Р. Земкевіча. Ацэньваючы іх, мне прыходзіць на думку адзін абразок з жыцьця.

Зайшоўшы раз да знаёмых, угледзеў я за сталом хлопчыка 8—9 гадоў, які алавіком з вялікім стараньнем рысаваў нешта на паперы.

Глянуўшы, я ўбачыў на ім некую жывёліну з чатырма нагамі, хвастом і галавою.

— Што-ж гэта ты нарысаваў? — спытаўся я.

Той засароміўся, памаўчаў і кажа:

— „Гэта слон“.

— Слон? ну, братка, не распазнаеш. А я думаў — гэта сабака!

Хлопчык яшчэ больш засароміўся, але не адставаў ад рысунку і праз некалькі часу, прыносіць мне яго, кажучы:

— „Ну, цяпер, дзядзька, ужо не памылішся“.

Я глянуў на рысунак і сапраўды памыліцца ўжо ня мог, бо пад жывёлінай каракулямі было падпісана: „гэта слон, а не сабака“!

Прачытаўшы гэнае „інж.“ перад прозьвішчам пана Земкевіча, прыпомніўся мне гэны хлопчык. Так! Пан Земкевіч мусіў напісаць гэта „інж.“ перад сваім прозьвішчам, каб людзі не памыліліся, што ліст гэны пісала асоба з вялікай адукацыяй, а не які-небудзь малаграматны хлопчык, што вельмі лёгка магло-б здарыцца з кожным чытачом, каторы аб кваліфікацыях аўтора хац ў бы судзіць толькі са зьместу пісьма. Бо які-ж зьмест гэнага пісьма? Пан Р. Земкевіч у ім кажа, што ня з уласнай ахвоты ён піша, а ўступаючы просьбам людзей. Пане Земкевіч, нашто гэта лішняя шчырасьць! Ці-ж Вы думаеце, што з Вашага пісьма ня відаць, што нехта Вас прасіў і то вельмі, вель-

ў Менск,—дзе прасядзеў некалькі месяцаў у вастрозе і выселены назад у Польшчу. Знаходзіцца цяпер на волі.

Усе вышэй паіменаваныя асобы зьяўляюцца ахвярамі „працы“ спрытных кіраўнікаў Грамады, увабраўшыхся ў рэвалюцыйныя шаты, а ў запраўднасьці граючых на нашых землях агідную ролю правакатараў і ашуканцаў беларускага сялянства і сялянскай моладзі, якую яны падводзяць пад удары з аднаго боку польскае паліцыі, а другога боку бальшавіцкіх уладаў. На сумленьні віленскіх грамадаўскіх палітыкаў-правакатараў ня толькі гэтыя пяць ахвяраў. Нечалавечыя моральныя мукі перажылі ў бальшавіцкіх засьценках сотні б. грамадаўцаў. Абавязкам беларускага і польскага грамадзянства зьяўляецца прыйсьці з дапамогаю ахвярам бальшавіцкае правакацыі і заступіцца за іх перад польскімі ўладамі.

## Закон аб свабодзе прадвыбарчых сабраньняў.

Перад выбарамі ў Сойм і Сэнат, пачынаючы ад абвешчаньня дэкрэту аб выбарах у Сойм, істнуе свабода для скліканьня сабраньняў і сходаў.

Паводле закону 5 жніўня 1922 году ў гэтым часе, г. зн. цяпер аж да 11 сакавіка 1928 г., усе сабраньні, скліканыя выбаршчыкамі, ці кандыдатамі на паслоў у выбарчым пэрыядзе, г. зн. ад дня вызначэньня тэрміну выбараў да дня выбараў, не патрабуюць дазволу адміністрацыйных уладаў (пар. 1).

Аб перадвыбарчым сабраньні на дарогах і публічных пляцох павінна быць паведамлена асобаю, склікаючаю сабраньне, адпаведным адміністрацыйным уладам I інстанцыі (староста) ці бліжэйшаму паліцэйскаму пастарунку не пазьней, як за 24 гадзіны да пачатку сабраньня (пар. 2).

Паведамленьне, указанае ў 2 пар., можа быць пісьменнае, ці вуснае і павінна заключаць у сабе: 1) імя і прозьвішча склікаючага сабраньне, 2) заяву, што гэта прадвыбарчае сабраньне, 3) адрэс склікаючага. Улады па атрыманьні такога паведамленьня зараз-жа выдаюць пасьведчаньне аб прыняцьці паведамленьня аб сабраньні. (пар 3).

Такія пасьведчаньні ўлады не аплачваюцца гэрбавым зборам (пар. 4).

Закон гэты не абмяжоўвае нічым сабраньняў у закрытых памешканьнях, пры чым панадворак і агародчык, складаючыя замкнутае цэлае з гмахам, лічацца памешканьнем замкнутым (пар. 5).

Усе пастановы ранейшых загадаў, якія пярэчаць гэтаму закону, трацяць праўную сілу (пар. 6).

## Чаму кожны з нас павінен галасаваць пры выбарах у Сойм і Сэнат?

Шмат дзе, а асабліва на вёсцы спатыкаемся з галасамі, што шмат хто ня будзе галасаваць падчас выбараў у Сойм. Тыя, хто так кажа, тлумачаць тым, што Сойм нічога добрага для народу за працяг свайго істнаваньня не зрабіў. Наадварот, жыцьцё ў нас пагоршылася. Другое, людзі страцілі даверые да тых вялікіх абяцанак і дабрадзействаў, якія ім сулілі ўсялякія агітатары, каб толькі здабыць галасы для сваіх партыяў.

Праўда, што нічога з гэных абяцанак ня вышла. Наадварот, шмат хто, паверыўшы ім, мусіў адцярпець за гэта, або і да гэтай пары церпіць. Аднак, усё гэта не апраўдвае нас, калі мы ня хочам браць удзелу ў выбарах.

---

мі прасіў, каб Вы напісалі тое, што ў Вашым пісьме напісана. Вы, праўда, ня кажаце, якія гэта людзі прасілі Вас аб гэтым, але-ж з прыпіскі рэдакцыі „Права Працы“ гэтак „ахвотна“ зьмясьціўшай пісьмо Ваша і пяючай Вам дыфірамбы, як вядомаму архэолёгу і гісторыяграфу, адным словам, вучонаму, які ня мыляецца ў сваіх „доказах“, аж надта добра відаць, якія гэта людзі прасілі Вас аб напісаньні ўсяе тае фальшы, якую Вы зьмясьцілі ў сваім невялічкім пісьме.

Далей, пане інжынер, Вы ламаецеся ўжо ў адчыненыя дзьверы, калі кажаце, што ўсе, падпісаныя на нумарох газэты „Н. Д.“ рэдактары, былі рэдактарамі толькі „дзеля адседкі“.

Бо ведама, што кожны рэдактар, які сам фактычна не рэдагуе газэты, зьяўляецца рэдактарам „дзеля адседкі“. А гэткім рэдактарам і быў Ян Тукеркес. І чаму ён ім быў, аб гэтым я пісаў у сваіх успамінах аб „Н. Д.“ Ламаецеся таксама ў адчыненыя дзьверы, пане інжынер, калі кажаце, што пры газэце была рэдактарская калегія. Праўда, Вы скромна маўчыцё аб тым, хто ўваходзіў у склад гэнай калегіі, хто ў гэнай калегіі іграў першую скрыпку. Маўчыцё дзеля таго, што альбо ня ведаеце складу яе, альбо дзеля таго, што назваўшы сяброў гэнае калегіі, мусілі-б назваць маё прозьвішча, як асобы, стаяўшай на чале гэнае калегіі, і прызнаць, што ўсё апісанае ў маіх успамінах аб „Н. Д.“ ёсьць чыстая праўда. А ў Вас шак задача іншая: Вам трэба даказаць, што я брашу, трэба апаганіць мяне. І Вы гэта стараецеся зрабіць у далейшых радкох свайго пісьма, але робіце так няўдала, што нават подпіс пад гэтым творам Вашым — „гэта слон, а не сабака“ — нікога не ашукае.

Тутака пан інжынер для сваіх доказаў вывозіць на пазыцыю цяжкую артылерыю ў постац яго (Р. Земкевіча) нікому дагэтуль няведамых рукапісных успамінаў, якія ён быццам вядзе ад 1903 году.

Што гэта за ўспаміны, якую яны маюць вартасьць, як гістарычны матар'ял, трудна судзіць да часу, пакуль яны ня ўбачаць Божага сьвету. Тымчасам аб іх абвяшчае пан Р. Земкевіч адно, што ў гэных яго ўспамінах няма нічога аб якіх-колечы заслугах Ф. Умястоўскага ў кірунку ці выданьня, ці рэдагаваньня „Нашае Долі“.

Што-ж, можа быць і няма. Шак „Любопытный“ у байцы Крылова ў „кунсткамэры“ разглядзеў усялякіх „букашак, мушак, таракашак“, а слана і ня прыкмеціў.

Калі гэта здарылася з крылоўскім „любопытным“, то чаму-ж не магло здарыцца з *вядомым* беларускім архэолёгам і гісторыяграфам інжынерам Р. Земкевічам? Хіба-ж пан інжынер Земкевіч горшы за гэтага „любопытного?“

Трэба памятаць, што мы жывём у дэмакратычнай дзяржаве. У дэмакратычнай дзяржаве гаспадаром зьяўляецца ўвесь народ. Народ гаспадарыць праз сваіх прадстаўнікоў, якімі і зьяўляюцца паслы.

Усе найважнейшыя справы, якія датычаць паасобнага грамадзяніна, разглядаюць прадстаўнікі народу—паслы, сабраўшыся ў Сойме. Яны пастанаўляюць, колькі трэба плаціць падаткаў, колькі рэкрутаў даваць у войска, і колькі мае цягнуцца ваенная служба; бяз згоды Сойму ня можа быць пачата з кім-колечы вайна і шмат іншых важных справаў. Адным словам, Сойм гэта заканадаўчы орган, які устанаўляе законы, паводле якіх укладаецца жыцьцё дзяржавы. Ня трэба пераконваць, што Сойм, гэта найважнейшая установа, якая шмат благога можа палепшыць. Калі хто спытаецца, чаму мы ня бачым ніякага дабра, зробленага Соймам, дык на гэта ёсьць адзіны адказ.

Каб Сойм стаяў на вышыні заданьня, каб сапраўды ён быў тым прадстаўніком народу, які-б, знаючы жыцьцё шырокіх масаў народных, бараніў іх і імкнуўся да папраўленьня ўсіх крыўдаў, якія дзеюцца, трэба, каб прадстаўнікамі народу былі людзі справядлівыя, чэсныя, якія ў Сойм ня лезуць дзеля асабістых карысьцяў і выкарыстаньня для асабістых мэтаў пасольскага мандату, але ідуць туды, каб бараніць тых, хто ім паверыў і хто іх у Сойм паслаў. Нажаль, не аб усіх паслох ранейшага Сойму можна сказаць, што не ашукалі сваіх выбаршчыкаў. Ранейшы Сойм быў бясслаўным Соймам. Паслы ня толькі ня помнілі аб сваіх абяцанках, ня толькі што забываліся аб патрэбах і злыбедах шырокіх народных масаў, якія іх выбралі, а проста былі такія, што дзяржаву абкрадалі, як тыя зладзеі. І нічога дзіўнага, што шырокія масы страцілі даверые да такіх паслоў. Аднак, што іншае Сойм, заканадаўчая установа, а што іншае паслы. Ад самага народу залежыць, каго ён, як сваіх прадстаўнікоў, у Сойм пашле. Калі народ выбера людзей чэсных, якія ня кідаюць Бог ведае якіх абяцанак, але імкнуцца да рэальнае працы, дык тады ня будзе ўсякіх неспадзеўкаў і ўтраты даверыя.

З другога боку, калі шырокія сялянскія масы, страціўшы даверые да Сойму сваіх б. паслоў, у большасьці ня возьмуць удзелу ў выбарах, дык тады лепш арганізованыя палітычныя групы, варожыя нам, як напрыклад эндэцыя, абшарнікі, або варожыя нам соцыяльна групы, змогуць у будучым Сойме здабыць большасьць, тады можам спадзявацца што ніводнае з нашых справядлівых дамаганьняў ня будзе споўнена.

Выбары ў Сойм 4 сакавіка будуць паказальнікам грамадзкае сьпеласьці шырокіх масаў беларускага сялянства. На выбары павінны ісьці ўсе, як адзін, бо гэта сьведчыць аб тым, што ў масах ёсьць зразуменьне для так важнай справы, як выбары ў Сойм. Тым больш, што гэты Сойм будзе мець права зьмены конституцыі. А калі большасьць устрымаецца ад выбараў, дык рэакцыя, маючы перавагу ў Сойме, здолее зьмяніць конституцыю ў такім сэнсе, які будзе карысны для вялікіх абшарнікаў, фабрыкантаў і іншых фашыстых.

Ідучы тады грамадой на выбары, бо так вымагае грамадзкі і нацыянальны абавязак, ня верце безадказнай дэмагогіі розных палітычных групаў і паасобных людзей, а згуртуйцеся пад сьцягам Беларускае Радыкальнае Народнае Партыі, якая ня кідае дэмагогічных, безадказных лёзунгаў, а апіраючыся на рэальнай праграме, хоча палепшыць жыцьцё нашага гаротнага народу.

---

Ведама магло, і крыўдзіцца за гэта на пана інжынера ніхто ня мае права, бо няўважлівасьць, так сама, як, скажам, ідыётызм толькі кара Божая, а ня грэх. Толькі нашто, пане інжынеру, апранацца ў тогу беларускага археолёга і гісторыяграфа і дурыць людзей.

Шак крылоўскі „Любопытный“ ня меў прэтэнсіі быць заолёгам і ў дадатак яшчэ „вядомым“. Ён быў скрамнейшы за Вас.

Калі яму прыяцель сказаў, што ў „кунсткамэры“ слон быў, крылоўскі „любопытный“ з гэных словаў яго зрабіў зусім лёгічны вывад: што ён гэтага слана не заўважыў. А Вы, пане Земкевіч, ня толькі скромнасьцяй, але і лёгікай сваею не дарасьлі да гэтага „любопытнаго“. Не знайшоўшы ў сваіх успамінах аб „Н. Долі“ імя Ф. Умястоўскага і пачуўшы з вуснаў прыяцеля, што такі пры „Нашай Долі“ Ф. Умястоўскі быў, заместа таго, каб зрабіць адзіны магчымы лёгічны вывад і сказаць: „так, Умястоўскага я праглядзеў“, — Вы, дзякуючы сваёй хворай амбіцыі, (хвароба гэта мае сваю назоў: у псыхіатрыі яна называецца mania grandiosa) кажаце: „не, Умястоўскага пры «Нашай Долі» ня было“ і адразу перастаеце быць сымпатычным крылоўскім „любопытным“ і робіцеся брахунцом альбо „сочиняющим“ факты Брянцевым гісторыі беларускага адраджэнскага руху.

Далей, пане Земкевіч, Вы кажаце, ў сваім пісьме, што ў працягу 21 году аб маім рэдактарстве „Нашае Долі“ ні ад каго нічога ня чулі. Ці-ж сапраўды Вы ня чыталі маіх артыкулаў, зьмешчаных у газэце „Беларусь“ і „Бел. Дні“ аб чым я ўжо пісаў у сваім адказе С. Барывою? (глядзі № 40 „Б. Дня“).

Калі ня чыталі, то можна сказаць аб Вас адно: благі з Вас гісторыяграф. А калі чыталі і да гэтага часу не парупіліся спраўдзіць праўдзівасьць усяго таго, што я пісаў, чакаючы, што гэта зробіць пан А. Шлюбскі, скончыўшы „студыі“ царска-жандарскіх архіваў, — то сапраўды не гісторыяграф Вы, а малаграматны хлопчык. Пры аказіі не магу не ад'значыць, што для мяне зусім неспадзяванай зьяўляецца тая вялікая ўвага, каторую ўдзяляюць маёй скромнай асобе менскія бальшавікі, даручаючы, паводлуг словаў пана Р. Земкевіча, А. Шлюбскаму зьбіраньне дакумэнтаў, датычачых мае асобы. Калі Вы толькі ня брэшаце, пане Земкевіч, то сапраўды ад мяне належыць падзяка ім за гэты вялікі „гонар“. Пасьля гэнай заявы Вашай, пане Земкевіч, мне робіцца зусім зразумелым, чаму ўсё болей „гонару“ і ўвагі выказваюць да мае асобы іх тутэйшыя агенты.

Вось некалькі словаў адказу пану інжынеру Р. Земкевічу на яго пісьмо. Да асьвятленьня справы рэдагаваньня „Нашае Долі“ вернемся ў наступных нумарох „Бел. Дня“.

*Ф. Умястоўскі.*

## З сноў аб волі.

Нявольнік крыша ланцугі, —
Ўжо чара поўна; берагі
Стрымаць ня могуць гневу хваляў.

Нявольнік рушыць у паход,
Ідзе крывавы мараў ход,
Ідзе да ясных, сьветлых даляў.

З-пад крыльляў ночы выйшаў ён,
З вачэй арліных згінуў сон,
Надзеі зорка разбудзіла.

Магутны покліч ўжо гудзе —
Ідзем усе! канец бядзе,
Ня зломіць нас варожа сіла.

Да долі лепшае ідзе,
Ідзе, зьяднаны ў грамадзе
І цягнецца паход бясконца.

Нясе ён мукі, зьдзекі ўсе,
З сабою крыўды ўсе нясе
І рвецца змучаны да сонца.

*Вітэблянін.*

## Аб чым павінен ведаць кожны выбаршчык у Сойм і Сэнат.

Права галасаваньня пры выбарах у Сойм (магчымасьць аддаць голас за адзін са сьпіскаў) маюць усе грамадзяне дзяржавы, мужчыны і жанчыны, якім да 5 сьнежня 1927 г. мінула 21 год і прынамсі ад 4 сьнежня 1927 г. яны пражываваюць у выбарным вокрузе, г. зн. там, дзе ім прыслугоўвае права галасаваньня.

Выбіраць сэнатараў у Сэнат маюць права ўсе, бяз розьніцы полу, якім да 5 сьнежня 1927 г. 30 гадоў і якія ад 5 сьнежня 1927 г. пражываюць у выбарным вокрузе.

**Ад 2 студня 1928 году абвадовыя выбарныя камісіі зложылі сьпіскі выбаршчыкаў на прагляд.** Кожны выбаршчык павінен абавязкава ў тэрміне да 15 студня 1928 г. праверыць, ці яго прозьвішча ўмешчана у сьпіску выбаршчыкаў. Калі-б там яго ня ўпісалі, павінен пісьменна дамагацца гэтага і камісія абавязана дадаткова памясьціць яго прозьвішча ў сьпісак выбаршчыкаў.

**Толькі той будзе магчы кінуць картку пры галасаваньні, хто запісаны ў сьпіскі выбаршчыкаў.**

**15 студня апошні дзень праверкі сьпіскаў выбаршчыкаў.**

Калі-б выбаршчык даведаўся, што яго вычаркнулі са сьпіску, або што такога выкрасьленьня дамагаецца нехта іншы, дык мусіць падаць той самай акружной камісіі (у воласьці, ці магістраце) у тэрміне да 28 студня заяву з протэстам проціў выкрасьленьня са сьпіску. У гэтай заяве павінен падаць довады, што ён мае ўсе правы выбаршчыка:

1) зьяўляецца грамадзянінам (obywatelem) Польшчы,

2) маець патрэбны лік гадоў,

3) пражываець ад 4 сьнежня 1927 г. у выбарным вокрузе,

4) прыгаварам суда не пазбаўлены правоў галасаваньня.

**Хай кожны выбаршчык дапільнуець, каб унясьлі яго прозьвішча ў выбарныя сьпіскі!**

**Прачытаўшы газэту, перадай суседу!**

## Як даў сабе раду гаспадар Васіль дый яго жонка Параска.

*(Пераклад з украінскага)*

(Гл. № 41 „Бел. Дня").

Даўней суседзі ня сеялі буракоў, а цяпер наадварот, панашаму прыкладу сеюць, што раз то болей, бо жанчыны усю восень рвуць лісьцьцё з буракоў дый даюць каровам. Але Параска не пазваляе абрываць лісьцьця, бо гэта яго вынішчае.

Ды мы гэтага і не патрабуем, бо на $^1/_2$ дзяціны пасеялі люцэрны, якую аж 4 разы праз лета косім, так што каровы цэлае лета поўныя, як бочкі.

Як зьбярэм буракі, дык бурачанішча арэм на зіму каровамі, а вясною сеем мяшанку ячменю з аўсом. Вясной ужо не пераворваю, каб зямлі ня сушыць, але перацягну баронамі і засею сеялкай пудоў гэтак 5 мяшанкі і прыкачаю. Аднак-жа, ня гледзячы ну зімовую ворку, кідаецца сьвірэпіца.

Дык вось Параска парадзіла, каб, як толькі сьвірэпіца выб'ецца, дык зьверх мяшанкі пасеяць канюшыну і ізноў баронамі перацягнуць.

Гэтым самым я зьнічтажаю сьвірэпіцу і пакрываю засеяную канюшыну. Мяшанцы гэтае баранаваньне нічога ня шкодзіць, яна толькі лепей расьце.

Баранаваць трэба ў пагодны час, каб ячменю ў мяшанцы не зашкодзіць.

Канюшыну сею разам з цімахвеяўкай, ангельскім і францускім райграсам прыблізна так па 6 кг. канюшыны па 1 кг. цімахвеяўкі і кожнага райграсу, бо гэтым травы павялічваюць колькасьць ураджаю, а на другі год даюць добрае пасьбішча.

Тым, што зьбіраю з дзесяціны мяшанкі, кармлю быдла і гэта нам добра аплачваецца.

Зярнё з гэтага ячменю і аўса троху не падабаецца мне, бо нейк дужа дробнае, але Параска кажа, я на гэтым не разумеюся, бо такое зярнё на пашу дужа добрае, бо мае ў сабе шмат бялкоў, а дзеля гэтага сьвіньні ад яго хутчэй жырэюць, а каровы калі яго ядуць, дык даюць малака куды болей.

Я ёй веру, бо яна вучылася ў сельска-гаспадарчай школе, а я просты, дык скуль магу гэта ведаць?

Як у жніўні былі калі-ні-калі дажджы, дык канюшына на іржышчы па скошанай мяшанцы добра расьце, а нават дзе-ня-дзе і зацьвіце.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як можна мець зімовай парой зеляніну.

У зімовую пару, як і заўсёды, зьяўляецца патрэбнасьць у рознага роду зеляніне, каторая ўжываецца, як прыправа да яды. Асабліва часта патрабуецца зялёная цыбуля, кроп, радыска, пятрушка і інш. Дастаць гэтую зеляніну ў зімовую пару магчыма толькі там, дзе ёсьць парнікі і то за высокую цану. Дзеля гэтага вясковаму, а часам і гарадзкому жыхару прыходзіцца адмаўляць сабе ў гэтым. Тымчасам, выгадаваць гэтую зеляніну зьяўляецца справаю зусім простаю і даступнаю для кожнага.

Кожны, хто хацеў-бы мець многа прыемнасьцяў атрымаць у самую марозную зімовую пару зеляніну, як напрыклад: зялёную цыбулю, кроп, пятрушку, радыску і інш., можаць выгадаваці іх бяз усякіх затратаў у сваёй хаце.

Каб вырасьціці кроп і радыску, трэба зрабіць скрынку ў 1 мэтр. даўжыні, $^1/_2$ мэтр. шырыні, 5 цм. глыбіні. У дне скрынкі трэба пракруціць сьвярдлом дзьве дзіркі ў дыямэтры 2 цм., каб потым праз гэтыя дзіркі, як будзем палівацъ, сьцякала вада. Перад насыпкай у скрынку зямлі, дзіркі трэба залажыць чарапкамі і на дно скрынкі насыпаць слой пяску таўшчынёю у 1 цм. Потым ужо насыпаць зямлю. Зямлю найлепш браць чорную з-пад дзірвана, а калі з нівы, дык трэба гэтую зямлю паставіць на бляхах у печ, каб яна крэпка перапалілася. Робіцца гэта дзеля таго, каб ад вялікай гарачыні ў печы зямля страціла ўсе карэньчыкі расьцін, якія-б маглі потым шкодзіць.

Насеньне радыскі і кропу можна сеяць непрарошчаным. Пасеянае насеньне закрываецца зямлёй цераз сіта і прытоптаваецца верх зямлі дошчачкай потым паліваецца цеплаватай вадой. Скрынка ставіцца на лаўцы перад вакном, а можна і ў другім месцы, абы быў доступ сьвятла.

Асобнага цяпла дзеля ўсходаў гэтых расьцін не патрэбуецца. Пры хатняй цяплыні яны як трэба быць узыйдуць.

Калі ўжо расьцінкі будуць мець па 2—3 лісьцінкі, іх трэба крыху прарадзіць. Далейшы дагляд будзе толькі ў паліўцы.

Найлепшым гатункам радыскі для зімовага вырашчваньня будзе „чырвоная-хатняя"; гэтая радыска дасьпеець і будзе годна да ўжытку цераз 3—4 тыдні.

Цераз 4 тыдні з дня пасеву можна будзе ўжо карыстацца і зелянінай кропу, зрэзваючы лісьцьцё яго па меры патрэбы.

Цыбулю можна вырашчаваць у такіх-жа самых скрынках, як радыску і кроп, але для зімовага вырашчаваньня трэба будзе браць не насеньне, а галоўкі. Перад саджэньнем галоўкі цыбулі ў працягу двух дзён трэба мачыць у вадзе. Саджэньне рабіць на адлежнасьці 8 цм. галоўка ад галоўкі, закопваючы іх у зямлю па самую шыйку.

Далейшы дагляд будзе толькі ў паліўцы.

Быльлём цыбулі можна карыстацца толькі калі яна ўжо дасягне ня менш 18 цм. увышкі. Сьцінаць трэба вострым нажом ці нажніцамі на вышыні 2 цм. ад галоўкі.

У працягу зімовай пары зелянінай з кожнай галоўкі цыбулі можна карыстацца 2—3 разы.

Дзеля пасьпешнага вырашчаваньня лісьцяў пятрушкі трэба карыстацца каранямі яе, ўзгадованымі ў грунце і схаванымі да зімовай пары дзе-небудзь у падвале, ці ў варыўні ў пяску.

---

Тады я кашу яе на сена, каб мець добрую пашу для цялятак, а нават парасят, якія такое сена (пасечанае на сечку) дужа добра ядуць і хутка растуць.

На другі год кашу канюшыну, як толькі закрасуе, а не чакаю аж пакуль перакрасуецца, бо тады выходзе нядобрае сена.

Сена сушу на пірамідах з дзерава. Гэта ратуе маё сена ад гніцьця, хоць-бы якая ні была дрэнная пагода. Сена і канюшыны зьбіраем столькі, што кормім ім праз цэлую зіму 2 каровы і адну ялаўку.

Дзеля гэтага кароўкі нашыя, не на ўрок ім, як лані, ўся вёска завідуе нам.

Хоць усе людзі такія каровы, як і мы мелі-б, каб кармілі іх так, як мы кормім.

Калі заару пасьбішча, дык пасу быдла на папары аж да познае восені, гэта знача аж да воркі на зіму.

Вясною бараную яго, а пасьля пасьбішча ізноў зарастае травой і ад паловы траўня аж да паловы жніўня служыць ізноў за пасьбішча.

У жніўні мяшаю, качаю, вывожу гной і яшчэ раз заворваю пад жыта і пшаніцу, каб управіцца з гэтай працай да першых дзён верасьня.

Гэты час зьяўляецца адзіным часам у працягу году, ў якім аж занадта вымагаю ад Парасчыных кароў: дзьве воркі на адным і другім полі, вывязеньне 30—40 вазоў гною, гэта ўсё забірае да 2 тыдняў часу. Але падчас гэтае работы даю каровам, каб іх ня вынішчыць, конскі аброк. Параска ім дагаджае, як можна, шыі масуе, мягонька падсьцілае, солі дае, сьвежае вады з крыніцы носіць, ну проста іх думкі адгадвае. Як трохі зямля на ворцы выляжыцца высяваем яшчэ штучны гной, бараную яшчэ раз і ўжо сею жыта і пшаніцу. Селяку пазычаю ў коопэратыве.

Вясной, як пшаніцу, так і жыта бараную, пшаніцу мацней, а жыта больш асьцярожна.

Вясной ніякага ўгнаеньня не даю, бо гной, што вывожу ўвосень, дужа добры, пшаніца на ім аж цёмна-зялёная і ў саломе цьвёрдая і ня надта даўгая бо тамашоўка і калійная соль добра яе падтрымоўвае.

Выдатак на гэтае штучнае ўгнаеньне, як на мой кішэнь, дык досьць вялікі, але я не шкадую, бо яно мне аплачваецца вялікім процантам, і я яшчэ ня ведаў, што такое неўраджай азіміны. Часам, праўда, галамароз прарэдзіць трохі азіміну, але вясновае баранаваньне і цёплы дожджык гэтую шкоду папраўляець.

Скрынкі для саджэньня каранёў мусяць быць глыбінёю ня менш 18 цм. Пры саджэньні ў скрынкі занадта доўгія карані можна крыху паадрэзваць. Адрэзваць трэба ніжнія часьці. Саджэньне можна рабіць на адлежнасьці 6-9 цм. корань ад караня.

Дагляд пасаджаных каранёў гэтак сама будзе толькі ў паліваньні.

Калі ўжо зьявіцца лісьцьцё, ім можна будзе карыстацца, але пры гэтым ніколі ня трэба зрэзваць лісьцяў у сярэдзіне, а зрэзваць толькі крайнія.

Дваццаць пасаджаных каранёў пятрушкі ў працягу зімовай пары зусім здаволяць патрэбнасьць у ёй сярэдняе гаспадаркі.

Аматары зеляніны разводзяць зімоваю парой пятрушку ў бочках. Для гэтага бяруць старую бочку і вышэй дна на 10 цм. пракручваюць дзіркі адна каля аднэй на адлежнасьці 10 цм. вокал бочкі, потым, адступіўшы ўвышкі 10 цм., узноў пракручваюць гэткім самым парадкам вокал бочкі дзіркі і так аж да верху. Калі ўжо бочка гатова, на дно яе кладуць слой гароднай зямлі і ў дзіркі першага ніжняга раду ўторкаваюць карані пятрушкі так, каб галоўкі каранёў дапасаваліся роўна з вонкавай сьценкай бочкі. У далейшым ізноў кладуць у бочку слой зямлі і гэтак сама ў другі рад дзірак ўторкваюць карані і гэтак далей, пакуль будзе запоўнена зямлёй бочка і ўсе дзіркі ў ёй запоўнены каранямі. Пасьля гэтага, бочку стаўляюць на сьветлае месца, зямлю паліваюць і так пакідаюць, пакуль зьявіцца зеляніна.

Калі зьявіцца зеляніна, ёю карыстаюцца так сама, як і зелянінай з скрынак.

З усяго вышэйсказанага відаць, што вырашчаваньне ўспомненай зеляніны ў зімовую пару ў хаце — справа вельмі простая, і той, хто захоча падправіць сваю страву зелянінай, зусім дасягне свае мэты — трэба толькі мець пажаданьне.

*Янка Тарыкаў.*

## Травасеяньне.

### Люцэрна пасеўная — (Medicago sativa).

Люцэрна — гэта многалетняя трава з вельмі сільна разьвітым карэньнем, якое бывае ад $1^1/_2$ да 2 мэтраў даўжыні, на добрых грунтох карэньне ідзе да 10 і навет да 20 м. у глыбіню.

Хаця люцэрна паходзіць з цёплых краёў, але, дзякуючы сваёй сыстэме карэньня, яна добра пераносіць засуху, халады і навет маразы да 25 град., як гэта паказваюць досьледы з пасевамі яе пераважна ў Латвіі (Ліфляндыя), дзе яна дае вельмі добрыя ўраджаі, на адным месцы ў працягу 14 гадоў, ніразу не ашукала, бо не баіцца а ні марозу а ні бясьсьнежных зімаў.

Люцэрна пасеўная — гэта расьліна ад $1/_2$ м. да $1^1/_2$ мэтра, мае галоўкі падобныя да каласоў, цьвет — фіялетавы з блакітным адценкам. Струкі люцэрны падобныя да садовых сьлімакоў і закручаны ў $2^1/_2$-3 абароты, — цёмна-брунатнага колеру і як-бы пакрыты валаскамі. Сама люцэрна паходзіць з Азіі і яе многа сеюць ў Пэрсіі, Афганістане, Індыі, на Каўказе, а апошнімі часамі ў Германіі, Расеі, Францыі, Вэнгрыі і ў Польшчы — на левабярэжжы Віслы.

Хаця люцэрна як-бы расьліна цёплага клімату, але яе даўно ўжо сеюць у Расеі — у губ. Пензенскай і Смаленскай — гэта значыць, што яна холаду не баіцца. Трэба ведаць, што люцэрна ў добрых варунках дае ў адно лета 5 і 8 пакосаў, што дае разам ад 750 да 1000 пудоў найлепшага сена. А ў нас яна можа даваць у 2-3 пакосы ад 200 да 400 пуд., альбо 30-50 цэнтнараў найлепшага сена. Люцэрна гэтак сама, як і канюшына, мае вельмі многа лісьцьця і каб сабраць лісьцё з аднаго гэктару, дык яго хапіла-б, каб услаць, як посьцілкаю 30-50 гэктараў зямлі. Люцэрна вымагае грунту пухкага, суглінiстага і вапнаватага, але добра ўдаецца і на пясчанамергельных. Толькі цяжкія, мулаватыя альбо камяністыя грунты не падходзяць для люцэрны.

---

Град у нас рэдка калі бывае, але „хто сьцеражэцца, таго і Бог сьцеражэ“ і дзеля гэтага я страхуюся ня толькі ад пажару, але і ад граду, каб, крый Божа, ня згубіць усяго. Выдатак на страхоўку ня так вялікі, а затое галава спакойная.

Азіміну кашу сам, а Параска асьцярожна вяжа, каб зярнё ня высыпалася і як зложым добра ў бабкі, дык можа дождж 2 тыдні ліць і ніякі вецер іх не разьверне.

Як малачу, дык людзі просяць даць на пасеў, бо такое добрае зярнё маю. Я мяняю і бяру ад іх па $1^1/_2$ пуда за пуд, маючы праз гэта даволі паважны заработак на азіміне.

Іржышнік па азіміне зараз-жа падкідаю, каб ральля ня дзічэла, і трэцюю часьць гэтага поля прызначаю на лён. Гэту часьць ральлі зімовай парой паліваю гнаёўкай, рэшту кідаю пад лубін.

А ні аднаго, а ні другога спачатку я не хацеў рабіць, бо ведаў, што каля лёну шмат працы. А што ўжо лубін Параска хацела сеяць, дык я зусім не разумеў нашто. Аднак, Параска казала, што патрабуе для кароў нейкага бялку, ў якім я нічога не разумеў. Я-ж хацеў болей мець жыта і пшаніцы. Упарты я, але яна яшчэ больш.

Ведаеце, гразіла мне што нават, як не паслухаю, дык уцячэ да бацькоў. Вось рад я ня рад, але мусіў згадзіцца, хай думаю пераканаецца сама, якое глупства зрабіла.

Тымчасам прайшоў год і я пераканаўся, які я быў неразумны ў сваёй упартасьці, бо Параска ведала, да чаго імкнулася. Лён і лубін зрабіўся падпораю нашае гаспадаркі, бо давалі паказныя даходы і зямлю збагачвалі.

Лубін даваў зярнё для кармленьня быдла, а яшчэ з яго і добры гной выходзіў. Лён сею, як толькі вясной зямля крыху абсохне, сею накрыж і густа бараную лёгкай бараной і прывалкоўваю. Таму, што густа сею, маю добры доўгі лён з далікатнымі валаконцамі. Палоць яго мушу часам і два разы. Як толькі дольныя лісткі пачынаюць сохнуць, пачынаем рваць лён, бо тады пража будзе бліскучая і мягкая. На насеньне падаю асобны кавалачак, каб паспела. Лубін сею рукамі ў красавіку ў сырую яшчэ зямлю: каля двух пуд. на $1/_2$ дзесяціны. Расьліна гэтая не патрабуе вялікага дагляду і расьце ў нас дужа добра. Як пачнуць стручкі дасьпяваць, дык іх сьцінаем і дасушваем на сонцы.

Сьцеблякі лубіну, якія застаюцца на полі, зараз-жа заворваем.

(Працяг будзе).

Самае важнае — гэта добрая і глыбокая ворка пад люцэрну, дзеля чаго трэба поле араць ня менш як 5 сант. глыбіні, і вельмі добра пусьціць за плугам яшчэ паглыбяч — (сошку бяз крыл), ад чаго зямля робіцца надта пухкаю, а пасеяная люцэрна дае найлепшы рэзультат. Люцэрна найлепш удаецца па бульбянішчы ды яшчэ, калі перад тым быў дадзены гной. У чыстым відзе люцэрны высяваюць ня больш, як 25-30 кг. на адзін гэктар. Яе можна сеяць і з аўсом, або як мешаніну з іншымі травамі (з тымоткаю, аўсяніцаю).

Трэба добра памятаць, што люцэрна вельмі вымагае частага баранаваньня як увосень, гэтак сама і вясною, і чым яна старэйшая, тым лепш трэба баранаваць; навет можна ўвосень перарэзаць люцэрнішча бараною-талерачкаю.

Звычайная люцэрна мае гатункі:

**Француская, вэнгерская**, трохі менш падходная для нас — **італьянская** і зусім непадходная—**амэрыканская** (вельмі нячыстая). Гатунак **туркестанскае** — добры і трохі таньнейшы за францускую. На заканчэньне трэба заўважыць, што рэдка якая расьліна дае гэтулькі сена, як люцэрна пасеўная або сіняя і ні адна расьліна не пакідае па сабе гэтак добрае поле, як люцэрна. Калі пасеяць пшан цу па люцэрне, то яна лепш удаецца, як на поўным гнаі.

Толькі трэба памятаць, што люцэрна расьце першы, а часамі і другі год памалу ды вельмі ўважна трэба выбіраць добрае насеньне, якое часта надта хвальшуюць. Кілёграм насеньня люцэрны каштуе 4-8 злотых.

Ёсьць яшчэ тры гатункі люцэрнаў, з якіх будуць:

**Люцэрна хмелявідная** — (Medicago lupilina), якую называюць таксама і жоўтаю канюшынаю. Гэта люцэрна мае краскі-каласкі жоўтыя і насеньнем яе вельмі часта хвальшуюць насеньне чырвонае канюшыны. Люцэрна хмелявідная расьце найбольш два гады і гіне.

Яна малаўраджайная, хаця добра вытрымлівае маразы і найбольш падходзіць на сырыя грунты, тарфяністыя і гліну. У чыстым відзе сееца рэдка, часьцей, — як мяшанка. Насеньне яе розьніцца ад сіняе або пасеўнае тым, што мае шыпікі на канцы, а ў пасеўнай — зярняты паходзяць на бобікі.

**Люцэрна шэдзкая** — (Medicago falcata), якую называюць дзяцелеўнікам. Мае жоўтыя краскі, і стручкі яе, як-бы загнутыя маленькія серпікі. Яна вельмі хутка дзеравянее, дае ўсяго адзін пакос, больш надаецца на падсеў выганоў, хаця добра зносіць зімы. Добра расьце на камяністых грунтох.

I апошні гатунак люцэрны — гэта Люцэрна пясковая — (Medicango media), краскі якое гэтак сама жоўтыя, зялёныя і фіялетавыя, дзеля чаго яе завуць яшчэ стракатаю. Гэта расьліна надта добрая на сухія грунты, пяскі, але ня зносіць блізкае падгрунтовае вады. Можа трымацца на адным месцы 3—6 гадоў і даць два пакосы і пашу ў адно лета.

Вось, коратка кажучы, ўсе тыя палявыя травы, якія вельмі падходзяць на штучныя сенажаці у нас на Беларусі, якія могуць даваць добрае сена, ўгнаець зямлю, і апрацоўка якіх вельмі памагае ў нас, каб падтрымаць дабрабыт гаспадароў і гадоўлю жывёлы. *Я. Х.*

# ПЧАЛЯРСТВА.

### Варшаўскі вулей сыстэмы Лявіцкага.

(Гл. № 41 „Бел. Д.“).

Бакавыя ліштвы рамак таксама надта лёгка дакладна і аднолькава адрэзваць, палажыўшы прыгатованыя дзеля гэтае мэты ліштвы на наша правідла і адпілоўваючы іх з аднаго канца, бо з другога канца мы можам роўна з дошкаю правідла налажыць прыгатованыя ліштвы. Калі мы ўжо маем напілованыя дошчачкі для рамак, то тады бяром дзьве бакавыя ліштвы, прыкладаем іх да бакоў правідла, добра прыціскаем іх, пры помачы адумыснага, добра вымеранага расьпінача і па канцох гэтых бакавых ліштваў прыбіваем верхнюю і ніжнюю бэлечкі. Забіўшы, маем ужо гатовую правідлова збудованую рамку.

*Дно* вулья нярухомае, зроблена з дошчак паўтарачак, упапярок змацованых паміж сабою. Дно прыбіваецца да ніжніх кантаў сьценак вульля. (Аб нярухомым дне кажу толькі дзеля таго, што яно зьяўляецца такім у арыгінальным вульлі Лявіцкага, а ў вульлі палепшаным цераз Ст. Бжоско, які ўвёў настаўкі, дно так сама, як і ў вульлі Дадана-Блатта рухомым. Гэтае ўвядаеньне Бжоско мотывуець якраз тым, што гэта гігіенічна і болей прыдатна для чышчэньня вульля).

*Ножкі* вульля з нярухомым дном ёсьць сталыя, зьяўляюцца яны прадоўжаньнем рагавых стоўпчыкаў сьценак і выстругваюцца разам з імі. У вульлі з рухомым дном такіх сталых ножак ужо застасаваць ня можна і дзеля таго такія вульлі ставяцца на падстаўках (на козьліках альбо на ўбітых, дзеля гэтай мэты, у зямлю стоўпчыках).

*Стрэшка* вульля двуакаповая, знача робіцца са сьцёкам вады на два бакі. Апіраецца яна на шчытох і на адумыснай раме, якая пры пакрыцьці вульля абыймае шчыльна яго з усіх бакоў. Робіцца ўся з дошчак цалёвак. У шчытох ёсьць дзірачкі вульля для вэнтыляцыі сьвежага паветра падчас сьпёкаў. Дзірачкі гэтыя на зіму закрываюцца. Пры рабленьні стрэшкі трэба зьвяртаць вялікую ўвагу на тое, каб ня было ў ёй ніякіх шчылін, а ні зноў-жа ніякіх сукоў у дошках, цераз якія магла-б лёгка пападаць у вулей вада і заводзіць надта непатрэбную і шкадлівую для пчолак вільгаць.

Сьценкі вульля робяцца таксама з цалёвак, можна гэтак сама ўжыць на сьценкі і паўтарачак, адно другому ніколі не зашкодзіць. У тым адно зьяўляецца розьніца, што вулей зроблены з паўтарачак, будзе значна цяжэйшы за вулей, зроблены з цалёвак, цяплейшым-жа за яго ня будзе, дзеля таго, што на вулей, зроблены з цалёвак, болей пойдзе матар'ялу, якім мы запіхаем паміжсьценкавы прастор; я тут кажу якраз аб падвойных сьценках у вульлі. А непадвойныя сьценкі трэба рабіць з паўтарачак. Дошкі, прыгатаваныя на сьценкі вульля, змацоўваюцца паміж сабою ў паз, гэта знача такім спосабам, што ў дапасованых дошках, з бакоў іх выстругваюцца пазы, у якія потым забіваецца нашмарованая клеем ліштва; трэба памятаць пры будове вульля і аб тым, што матар'ял павінен быць добра высушаны, бо калі дошкі, прыгатаваныя на вулей, будуць сырыя, то яны, сохнучы ў зробленым з іх вульлі, могуць яго пакрывіць.

*Дзьверцы ў вульлі* Лявіцкага (у Дадана-Блатта іх зусім няма, бо там уся апэрацыя робіцца зьверху) робіцца з левага боку пярэдняе сьценкі, калі мы станем да яе тварам. У шырыню яны маюць столькі мілім., колькі маець і самая шырыня вульля, у вышыню маюць 370 мілім., трымаюцца на завесках і зачыненыя, каб шчыльней прыставалі, прыпіраюцца адумыснай закруткаю.

*Ляткі* ў вульлі Лявіцкага робяцца два на сярэдзіне пярэдняе сьценкі. Адзін з іх робіцца вышэй у адлегласьці ад нізу вульля на 250 мілімэтраў. Ніжні лятох робіцца пад верхнім на самым дне вульля. Абодва ляткі маюць у вышыню 9 мілім. і ў шырыню 120 мілімэтраў. Ляткі прарэзваюцца наўкос на дол, дзеля таго, каб у вулей не пападалі праменьні сонца, якія-б падаграваді і растапнялі восак і дзеля таго, каб дажджавая вада ня так лёгка магла папасьці ў вулей. Лятох служыць пчолкам для камунікацыі і для ўваходу ў вулей сьвежага паветра. Гэтая вэнтыляцыя паветра надта добра праводзіцца ў вульлі Лявіцкага, дзеля таго, што ў ём робяцца два ляткі, адзін уверсе, цераз які нагрэтае і сапсованае ў вульлі паветра выходзіць навонкі, а цераз другі лятох, які знаходзіцца ўнізе, сьвежае паветра ўваходзіць у вулей. Лятох заўсёды павінен мець такія разьмеры, каб цераз яго толькі самыя пчолкі маглі пралазіць, не даючы доступу розным шкоднікам, як мышам, якія надта ласыя на пчаліны мёд і якія, ўварваўшыся ў вулей, (хоць-бы адна, ці дзьве мышы), могуць нарабіць шмат шкоды пчолкам і пчаляру, зьядаючы мёд і згрызаючы вузу; гэткім чынам, калі пчаляр іх не агледзіць і ня выжане іх, могуць нават зусім згубіць вулей пчолак. Другім ворагам пчолак зьяўляецца пчаліная матыліца, якая гэтак сама дастаецца ў вулей цераз ляткі, і якая заўсёды паяўлецца ў жніўні. Гэты другі *асеньні* вораг пчолак можа дастацца ў вулей нават цераз шчылінку, маючую 5 мілімэтраў шырыні. Вот-жа ў той час, калі нашыя ляткі ў вульлі Лявіцкага, маючыя вымер 9×120 мілімэтраў дасканальна бароняць пчолы ад доступу мышэй, не бароніць іх зусім ад доступу *пчалінае матыліцы.*

*Пчаліная матыліца* гэта звычайныя шэрыя маленькія матылькі, якія зьяўляюцца часам цэлымі мільёнамі на пчальніку, улазяць у вулей цераз лятох і папасваюцца там пчаліным мёдам. Бараніцца ад іх можна толькі такім спосабам: па сканчэньні мёдабраньня, — бо яны тады найчасьцей зьяўляюцца, — трэба пасярэдзіне лятка працягнуць тоненькі дроцік. Тады мы разьдзелім 9-мілімэтровы радок на дзьве палавінкі па $4^1/_2$ міл., цераз такую дзірачку матыліца не пралазіць, альбо калі і пастараецца пралезьці, то тады абрэжа сабе крыльля, альбо зусім задушыцца і астанецца пры лятку на мосьціку, які трэба пчаляру часта ачышчаць ад трупаў гэтых шкоднікаў, бо яны, набраўшыся ў большай колькасьці могуць загрувасьціць сабою лятох і ня пусьціць у вулей сьвежага паветра, а пчолкі скінуць іх ня могуць, бо яны ў нас загароджаны дроцікам. Дзеля ахвы пчолак ад рабуючых з другіх вульлёў пчол і ад восаў, трэба ўжываць у ляткох засоўкі, зробленыя з бляхі, у якой парoблены дзірачкі, такога разьмеру, каб галава пчолкі не магла цераз іх пралезьці. Засоўкі гэтыя ўваходзяць у пазы, якія парoблены ўверсе і ўнізе лятка. Гэтымі засоўкамі можна яшчэ рэгуляваць і велічыню самага лятка, прыстасоўваючыся да патрэбы і да пары году.

Пры кожным лятку робіцца масток, трошкі пахілены да зямлі, а гэта дзеля таго, каб дажджавая вада шыбчэй сплывала на зямлю і каб лятох скарэй высыхаў. Верхні масток трошкі меншы за масток ніжні, дзеля таго, што на ніжні лятох заўсёды садзіцца найболей пчолак, якія вяртаюцца з поля і якія ў лёце аслабнуць у той час, калі з верхняга лятка пчолкі амаль што ня выключна ідуць у поле. Карысна рабіць масток з двух дошчачак так, каб яны ў палове згіналіся, а гэта дзеля таго, каб зімою аднюю крайняю палавінкаю можна было засланіць лятох, баронячы вулей ад раптоўнага халоднага зімовага ветру.

*Пчаляр.*

# Юрыдычныя парады.

**Антону Кроту ў Журыхах.**

*Пытаньне.* Нас чатырох сыноў у бацькі. Зямлі маем 24 дзесяціны. Трох братоў жыве дома, а чацьвёрты ў Ленінградзе. У 1917 г. бацька аддзяліў мяне, і даў мне 12 дзесяцін, значыць маю часьць і брата, які знаходзіцца ў Расеі. Бацька і матка асталіся пры братох. У 1927 г. бацька памёр. Братава часьць асталася пры мне. Цяпер гэту часьць браты хочуць адабраць. Ці маюць права?

*Адказ.* Вы маеце права на 6 дзесяцін. Часьць брата павінна быць падзелена пароўні між трох братоў. Брат, які знаходзіцца ў Расеі, павінен прыслаць натарыяльную даверанасьць, заверaную мясцовым расейскім судом і польскім консулятам у С.С.С.Р., што перадае гэту часьць брату. Калі гэтай даверанасьці ня будзе, то зямля ідзе пароўні між трох.

**Янцы Жуку.**

*Пытаньне.* Пяць гадоў таму мы яшчэ жылі разам з бацькай, мелі 12 дзесяцін зямлі і плацілі маёнтковы падатак.

3 гады, як мы падзяліліся па 3 дзесяціны, а падатак плацім той самы. Пісалі прашэньне ў старастава, але адказу ня маем.

*Адказ.* Прашэньне трэба падаваць у Скарбовы Урад, (Powiatowy Urząd Skarbowy), а ня ў Старaства. Калі вы сапраўды падзяліліся, дык маёнтковага падатку не павінны плаціць.

Падзел, аднак, трэба засьведчыць у валасьці (у войта) або яшчэ лепш у натарыюса і прадставіць яго ў Павятовы Скарбовы Урад (Powiatowy Urząd Skarbowy).

## Аб штрафах за табаку.

Скарбовыя ўлады накладалі вялікія штрафы за сеяньне табакі. У шмат якіх месцах за кожнае каліва панакладалі на сялян па 5 зл. Хто быў пакараны такім вялікім штрафам, можа прасіць суд аб паменшаньні кары, што можа стацца дзякуючы істнаваньню загаду Міністра Скарбу п. Чаховіча за 30/X № 2304, у якім прызнаецца права зьмяншаць кары за табаку. Падаваць трэба просьбы ў міравы суд, жалячыся на пастанову скарбовае ўлады аб штрафах.

## Да нашых падпісчыкаў.

Рэдакцыя „Беларускага Дня“ атрымлівае штодня пісьмы ад падпісчыкаў, у якіх яны даносяць аб тым, што не атрымліваюць з пошты „Беларускага Дня“ і пытаюцца, чаму Рэдакцыя не высылае ім газэты.

Даводзім гэтым да ведама ўсіх падпісчыкаў, што Адміністрацыя „Беларускага Дня“ высылае акуратна штотыдня газэту ўсім падпісчыкам. Калі яны не атрымліваюць газэты, дык гэта дзеецца дзеля таго, што нехта затрымлівае яе на пошце, з якой падпісчыкі павінны атрымаць газэту. Хай кожны падпісчык дамагаецца „Беларускага Дня“ на сваёй пошце, якая мусіць выдаць газэту, бо яе Адміністрацыя высылаець.

У выпадку, калі-б урадоўцы на пошце заяўлялі падпісчыкам, што Рэдакцыя газэты ня прыслала, дык тады падавайце заявы ў Віленскую Дырэкцыю Пошт і Тэлеграфаў, у якой жалуйцеся на тое, што мясцовая пошта ня выдае падпісчыку газэты „Беларускі Дзень“.

Яшчэ раз напамінаем, што Рэдакцыя газэты высылае ўсім падпісчыкам і яны павінны дамагацца яе ад свае пошты.

**Адміністрацыя „Беларускага Дня“.**

# Корэспондэнцыі.

### Наш куток.

(*Каралеўшчына, Дзісьненскага пав.*).

Чытаючы беларускія газэты, спатыкаеш шмат корэспондэнцыяў з усіх куткоў нашае многапакутнай Бацькаўшчыны. З гэтых корэспондэнцыяў даведваемся аб тым, что наш сярмяжны Беларускі Народ аканчальна збудзіўся з векавога сну і пачынае новы пэрыяд у сваёй гісторыі, пэрыяд будаваньня лепшае будучыні. Найбольш энэргіі, у гэтай вялікай працы будаваньня Бацькаўшчыны праяўляе наша моладзь. І зразумела. Моладзь, з яе гарачымі, няўстрыманымі імкненьнямі да сьвятла і дабра, заўсёды была і ёсьць перадавым элемэнтам у грамадзянстве. Аднак, ці ўсюды, ці ўва ўсіх кутках нашае Бацькаўшчыны, ужо збудзіліся зо сну? Ці ўсюды моладзь займаецца чытаньнем кніжак, ладжаньнем спэктакляў і г. д.? З сумам мушу ад'значыць, што не. Для прыкладу вазьму хоць-бы нашу моладзь. Яна яшчэ сьпіць. Сьпіць у той час, калі навакол жыцьцё б'е крыніцай, калі навакол кіпіць работа над тварэньнем роднае культуры. Зірнём у ваколічныя вёскі, і сум западзе ў душу. Усюды глуха... Толькі сьвятам можна пачуць, як цягаюцца за чубы, напіўшыся гарэлкі. За гэтай-жа апошняй дзела не пастаіць. Усмакталася яна ў кроў нашага сялянства і цягне з яго апошнія сокі.

Досыць, браткі, спаць! Мы і так шмат чаго ўжо праспалі ў цяперашняй барацьбе за вызваленьне беларускага духу. Спаць зьяўляецца цяжкім праступкам і дзеля таго яшчэ раз заклікаю нашу моладзь прачнуцца. Няхай у кожнага ў сэрцы прагучаць словы:

> Пара у рукі браць паходні,
> Ісьці ўпярод, ноч расьсьвятляць,
> Бо што ня возьмеце сягоньня—
> Таго і заўтра вам ня ўзяць!

*Блізкі.*

# Апошнія навіны.

**Польшча. Звальненьне дзісьненскага старасты.** Ад 1 студня 1928 г. зволънены дзісьненскі староста п. Міхал Станішэўскі. Дзісненскім старастай назначаны Уладыслаў Янковскі.

**Абмен Якуба Чэрняка („Артура“) і Ст. Мэртэнса-Кулікоўскага („Стэфана“).** Як паведамляюць варшаўскім газэты ў ліку абмененых вязьняў з СССР знаходзіцца Я. Чэрняк (псэўд. Артур) і Станіслаў Мэртэнс. Першы ў 1924 г. быў сэкрэтаром Ц. К. К. П. З. Б., а другі галоўным эмісарам Камінтэрну на Заходнюю Беларусь і Украіну. Абодва паходзяць з Лодзі і да прыезду на нелегальную работу ў Польшчу займалі „высокія“ савецкія пасады. Я. Чэрняк быў палітычным камісарам артылерыі ў Маскве, а С. Мэртэнс членам петраградзкага Г. П. У.

Як Мэртэнс, так і Чэрняк зьяўляюцца заядлымі ворагамі беларускага руху і галоўнымі вінавайцамі ўсіх палітычных авантураў, сьведкамі якіх мы былі ў працягу 1924-1925 г.

**Інтэрвэнцыя Літоўскага Камітэту ў Вільні.** Тымчасовы Літоўскі Камітэт у Вільні звярнуўся з просьбай да Міністэрства Асьветы аб адчыненьні замкнутых літоўскіх школаў.

**Прысьпяшэньне польска-літоўскіх перагавораў.** У Коўна мае прыбыць у хуткім часе прадстаунік Лігі Народаў, заданьнем якога мае быць прысьпяшэньне польска-літоўскіх перагавораў, паводле рэзалюцыі, якую пастанавіла Рада Лігі Народаў.

**Нямеччына.** Нямецкія газэты падаюць, што дыплёматычныя перагаворы пасунуліся да таго, што спатканьне міністраў Штрэзэмана і Вальдэмаркса мае хутка наступіць. Тэмай перагавораў, якія маюць адбыцца ў канцы студня ў Бэрліне, будзе справа гандлёвага дагавору, умова аб рыбалоўстве і гранічная умова.

**Літва. Прысуд над 5 палякамі у Коўне.** Ваенна-палявы суд разглядаў справу 5 палякоў, абвінавачаных у галоўнай здрадзе дзяржавы. Двух галоўных абвінавачаных суд засудзіў на кару сьмерці, трох апошніх на цяжкую турму ад 1 да 8 год. Прэзыдэнт Рэспублікі дараваў жыцьцё засуджаным і зьмяніў кару сьмерці на вечную катаргу.

**Арышт Латвійскага грамадзяніна.** Літоўская палітычная паліцыя арыштавала ў Біржах латвійскага падданага Полотаса, які тлумачыў свой пабыт у Літве жаданьнем друкаваньня там сваіх кніжак. Паліцыя абвінавачвае Полотаса ў тым, што ён пашыраў адозвы літоўскіх эмігрантаў.

**Амэрыка. Маразы.** Вялікія марозы настали

ў паўночнай Амэрыцы. Выпала сьнегу на пару аршынаў. Замерзла 40 людзей.

Паміма таго, што ў Амэрыцы ня можна гандляваць і прадаваць алькагольных напіткаў, аднак водка льецца ручаямі. І так падчас навагодняй ночы ад надмернага піцьця памёрла ў адным Нью-Ёрку 32 чалавекі.

## Да ведама ўсім, хто хоча купляць гаспадарчыя машыны і прылады.

Рэдакцыя гэтым падае да ведама ўсіх падпісчыкаў і чытачоў, якія цікавяцца, як найлепш купіць сельска-гаспадарчыя прылады і машыны, што фірма „Зыгмунт Нагродзкі“, Вільня, Завальная 11-а — прадаець усе гаспадарчыя машыны і прылады на такіх варунках:

Пры заказе плаціца $1/3$ сумы кошту гатоўкай, $2/3$ сумы трэба заплаціць у працягу 3-4 месяцаў, а калі заказана на суму болей як 300 зл., дык у працягу 6 месяцаў. Да сумы, якая маець быць сплачвана пасьля атрыманьня заказу, далічваецца 1% месячна.

Пры заказах трэба прыслаць у фірму „Зыгмунт Нагродзкі“ пасьведчаньне валасьці аб тым, што заказчык зьяўляецца ўласьнікам сельскае гаспадаркі. Сябры сельска-гаспадарчых гурткоў маюць скідку з цэньнікавай цаны.

Цэньнік на ўсе машыны можна атрымаць ад фірмы З. Нагродзкі, куды трэба зьвяртацца.

Прыймаецца падпіска на 1928 год на тыднёвую газэту

**„БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ“**

Усім, аплаціўшым за тры месяцы падпіску будзе **БЯСПЛАТНА** штомесяц высылацца брашура гаспадарчага зьместу.

У сьнежні будзе выслана выдрукаваная ўжо брашура агр. Пачопкі „Як выбраць добрага каня“.

## Друкі Краёвага Народнага Саюзу і Беларускай Радыкальнай Народнай Партыі.

1) **Да народаў Літ.-Бел. Краю.** Адозва Зьезду 27 лістапада.
2) **Да народаў Літ.-Бел. Краю.** Адозва Выканаўчага Камітэту К. Н. С. Літ.-Бел. Земляў „Аб'яднаньне“.
3) **Наш адказ „Вызваленьню“**—лістоўка.
4) **Асновы праграмы Б. Р. Н. П.**
5) **Да Беларускага Народу.** Адозва Б. Р. Н. П.
6) **Як выбраць добрага каня** — брашура агр. Пачопкі—32 стр. Выданьне Б. Р. Н. П.

Усе гэтыя друкі можна атрымаць у Вільні ў Сэкратарыяце Краёвага Народнага Саюзу Л.-Б. Земляў **Mostowa d. № 9 m. 3**, і ў Рэдакцыі „Б. Д.“ **Cicha 4, m. 20.**

**БЕЛАРУСКАЯ КНІГАРНЯ**

**у г. НАВАГРАДКУ**

прадае ў сябе і высылае поштаю:

падручнікі для пачатковых і сярэдніх школ,
кніжкі рознага зьместу
і пісьменныя прылады.

З заказамі зварочвацца:

**г. НАВАГРАДАК, Замковая вул. 7.**

Сялянская Ткальня і Мяняльня

**„TKANINA“**

**ў Слоніме, вуліца Касьцюшкі 9.**

Прымае ўсялякае сыр'ё, як лён, каноплі, пакуле і воўну ўзамен на гатовыя палотны, зэфіры, барханы, мультаны, сукны, настольнікі, ручнікі, і да гэтага падобныя матар'ялы.

**Прымаем у кожнай мясцовасьці намесьнікаў (агентаў) і плацім высокую правізію.**

КУПЛЯЕМ УСЯЛЯКАЕ СЫР'Е і ПЛАЦІМ НАЙБОЛЬШЫЯ РЫНАЧНЫЯ ЦЭНЫ.

КУПЛЯЕМ УСЯЛЯКАЕ СЫР'Е і ПЛАЦІМ НАЙБОЛЬШЫЯ РЫНАЧНЫЯ ЦЭНЫ.

Рэдактар-выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3.